 

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 46 (1800) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 18 ЛІСТАПАДА 1990 г. ЦАНА 600 зл.



*Апошнія прыгатаванні перад адкрыццём музея і выстаўкі — устаноўка рэкламнага стэнду.*

## БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ АДКРЫТЫ !

Дзень 27 кастрычніка ўвойдзе ў гісторыю грамадскага жыцця беларусаў у Польшчы як памятная дата. У гэты дзень быў падсумаваны першы этап вялікага пачыну беларусаў усяго свету — пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы.

— Закончаны толькі першы этап пабудовы, — сказаў на адкрыцці Музея старшыня грамадскага камітэта пабудовы Канстанцін Майсеня. — Сёння мы аддаем у карыстанне першы будынак, у якім адкрываем пяць выставачных залаў. Мяркуем, што ў чэрвені 1991 года ўдасца закончыць будынак „Б", у якім будзе размяшчацца кіназала, бібліятэка, клуб-кавярня, гатэль і адміністрацыя музея. А калі не будзе вялікіх фінансавых клопатаў, дык яшчэ праз год аддамо і трэці будынак, які павінен стаць галоўным, уласціва экспазіцыйным будынкам з усімі заламі для экспанатаў.

Музей будавалі беларусы ўсяго свету. Але, як вядома, найбольш найцяжэйшай працы прыпала на мясцовых жыхароў, на гайнаўчан. Гэта яны выконвалі ўсе падставовыя работы грамадскім чынам, гэта яны на працягу чатырох гадоў не лічылі ні гадзін працы на пляцы музея, ні ў распаўсюджванні музейных цаглінак, гэта іх сэрцы сціскаліся на думку, што з-за недахопу грошай спыняецца праца на будоўлі. А трэба сказаць, што сабраныя грошы і асабіста ўкладзеная праца склалі ў агульных коштах музея 55-60 працэнтаў. 20 працэнтаў дала дзяржава і каля 20 працэнтаў склалі ахвяраванні беларусаў з БССР, на якія закуплена было вельмі ж дарагое ў нас абсталяванне для музея.

— Музей будзе домам для ўсіх беларусаў з Усходу і Захаду, — сказаў на заканчэнне сваёй прамовы Канстанцін Майсеня.

Аляксандр Баршчэўскі, старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, фактычна галоўны арганізатар урачыстасці, сказаў:

— Што б там ні прабавалі гаварыць некаторыя пра дзейнасць БГКТ, але якраз гэта па яго ініцыятыве сёння існуе гэты музей, музей, якога не пасаромеўся б ні адзін горад у Польшчы, а ўжо напэўна ён будзе адным з найбольшых музеяў на

(Працяг на стар. 6)

**У чэрвені і ліпені 1989 г. пабываў на Беласточчыне англійскі журналіст і рэпарцёр Ніл Эшэрсан (Neal Ascherson). Плёнам гэтых двух пабывак стаўся рэпартаж „The Borderlands" (што можна перакласці як „Крэсы" або „Памежжа"), апублікаваны ў англійскім квартальніку „новай журналістыкі" „Granta" (№ 30, 1990). З увагі на тое, што тэкст Н. Эшэрсана з'яўляецца першай сур'ёзнай і грунтоўнай спробай аналізу польска-беларускіх суадносін на Беласточчыне ў заходняй прэсе, мы змяшчаем некаторыя ўрыўкі з яго ў падборцы і перакладзе нашага супрацоўніка Яна Максімюка.**

## ПАД ЗРОКАМ ЗАХАДУ (1)

(...)

Пра Польшчу мне даводзілася пісаць, больш ці менш рэгулярна, звыш трыццаці гадоў. Але пабываць у паўночна-ўсходнім закутку Польшчы, мяжуючым з савецкімі рэспублікамі Літвой і Беларуссю, мне раней не давялося. Беласток ляжыць збоч важных шляхаў, нічым асаблівым не вызначаецца ў гісторыі, не з'яўляецца таксама апірышчам для буйнага інтэлектуальнага жыцця. Я ведаў, што ў гэтым старонні пражываюць няпольскія меншасці, літоўцы і беларусы, старажытныя землі якіх былі рассечаны дзяржаўнай мяжою. Але я таксама ведаў, што пражываюць яны пад пільным наглядам камуністычнае ўлады і службы бяспекі, і пагаварыць з імі — нялёгкая справа.

І раптам, у 1989 г. Польшча стала цэнтрам свету, дакладна так, як пяцьдзесят гадоў таму назад. Тут пачалася II сусветная вайна; зараз канчалася эпоха „халоднае вайны", а можа, і сама эпоха бальшавіцкае рэвалюцыі. Камуністычны перыяд гісторыі Польшчы ўжо мінуў. У чэрвені тут мелі адбыцца першыя ад сарака гадоў у савецкай зоне Еўропы напалову свабодныя выбары. Яшчэ два гады назад нават найбольшыя аптымісты прадказвалі, што такую падзею Савецкі Саюз можа дапусціць не раней, чым у пачатку дваццаць першага стагоддзя.

(...)

Упершыню я наведаў Беласток у чэрвені 1989, у самы разгар выбарчае кампаніі. У парку адбываўся выбарчы мі-

(Працяг на стар. 6)

 




— 13 —

# Ад пачуцця сораму да пачуцця гонару

Калі глядзіш на сучаснае беларускае палітычнае жыццё, дык кідаецца ў вочы пэўная, на маю думку, небяспечная тэндэнцыя. Прысутнічаючы на некалькіх мітынгах у БССР, пачуў я, як выступаючыя дзеячы абяцалі беларусам лепшае жыццё. Здаецца мне, што такая абяцанка мае дэмагагічны характар. Уся бяда ў тым, што ў бліжэйшыя гады, а можа і дзесяцігоддзі, Беларусь чакае горшае, а не лепшае жыццё. Прычын горшага вельмі многа. Па-першае — чарнобыльская катастрофа. Зусім магчыма, што на працягу соцень гадоў беларусы будуць адчуваць яе ўплыў. Па-другое, у сувязі з распадам Савецкага Саюза, Беларусь пападзе ў вельмі цяжкое становішча. Перакананне, што выхад са структуры, якая завецца СССР, будзе абазначаць уваход у дабрабыт, з'яўляецца перакананнем вельмі наіўным. Уявіце сабе, што ўжо сёння Беларусь сарвала з сябе усе абмежаванні, накінутыя ёй Савецкім Саюзам і сталася краінай незалежнай. Ну і што? Ну і пачнуцца страшэнныя рэчы. Беларусь, як і ўвесь СССР, мае даволі адсталую прамысловасць. З прадуктамі і вырабамі, якія дае такая прамысловасць, нельга выйсці на еўрапейскі рынак. Не ведаю, што, апрача мінскіх халадзільнікаў, можам прапанаваць свету. Я нядаўна быў на Мінскім веласіпедным заводзе. Завод гэты выпускае 800 тысяч веласіпедаў у год. Нядаўна прыехаў на завод амерыканскі бізнесмен. Пазнаёміўшыся з якасцю веласіпедаў, заявіў, што купляе ўсю гадавую прадукцыю па 50 долараў за адзін веласіпед. Кіраўніцтва завода ўсё дакладна палічыла і прыйшло да вываду, што прадаваць веласіпедаў нельга. Справа ў тым, што амаль уся сыравіна і паўпрадукты, неабходныя для выпуску веласіпедаў, пастаўляюцца з Расіі або з іншых рэспублік. Калі давядзецца за ўсё гэта заплаціць доларамі, а гэта вельмі праўдападобнае, калі Беларусь будзе незалежнай краінай, дык веласіпеды з Мінска будуць каштаваць болей, чым пяцьдзесят долараў. Думаю, што з іншымі вырабамі беларускай прамысловасці справа выглядае яшчэ горш, чым з веласіпедамі. Не ведаю, якая з еўрапейскіх краін гатова масава купляць беларускія тэхнічныя тавары. Даводзілася мне бываць на Захадзе і аглядаць заходнееўрапейскую прадукцыю. Думаю, што розніца паміж заходнімі таварамі і беларускімі вельмі, вельмі вялікая і спатрэбіцца дзесяткі гадоў, каб зраўняцца з Еўропай. Праўда, бачу добрую перспектыву перад беларускімі ільнянымі вырабамі. Аднак, аднымі прасцінамі і абрусамі цяжка будзе кампенсаваць усё тое, што трэба будзе купіць за мяжой.

Можа нехта сказаць: калі не прамысловасць, дык сельская гаспадарка можа адкрыць Беларусі дзверы ў Еўропу. Здаецца мне, што тут перспектывы яшчэ горшыя, чым у выпадку прамысловасці. Праўда, у Беларусі, асабліва ў заходняй, ёсць добрыя калгасы. Але ці калгасы, нават найлепшыя, могуць канкураваць з заходнееўрапейскімі фермамі? Думаю, што не могуць. Найгоршае, аднак, у чымсьці іншым. Справа ў тым, што беларуская зямля хворая. Хворая ад радыяцыі. І так будзе на працягу дзесяткаў, а можа і соцень гадоў. Калі хворая зямля, дык хворае і тое, што на ёй расце і гадуецца. Ці можам верыць, што Еўропа захоча купляць масава беларускую сельскагаспадарчую прадукцыю? Я ў гэта не веру. Тым болей, што Еўропа цярпіць не з прычыны недахопу сельскіх прадуктаў, а з прычыны надпрадукцыі. Дык каму прадаваць? Можа нейкім азіятам ці афрыканцам? І што нам застаецца? Застаюцца нам цяжкія эканамічныя сувязі з Расіяй. Можа, не такія, як дагэтуль. Можа, больш справядлівыя і карысныя, але зноў галоўным чынам з Расіяй.

Падтрымліваючы ідэю такіх сувязей, адкідаю ідэю, якая дзесяткі гадоў прапагандавалася ў СССР. Гаварыла яна аб тым, што ўсе народы СССР, у тым ліку і беларусы, гэта малодшыя браты рускіх і без апекі старэйшага брата існаваць яны не могуць. Кожны народ сябе пракорміць і пражыве. Пражыве і пракорміць сябе таксама народ беларускі. Яго імкненне да незалежнасці разумнае. Аднак мусім сабе ўсведаміць — незалежнасць пойдзе па вельмі цяжкіх дарогах. І таму нельга абяцаць беларусам лёгкага жыцця, а трэба абяцаць жыццё годнае.

**Алесь Барскі**

# З мінулага тыдня

***11 лістапада — Дзень незалежнасці Польшчы.*** У цэрквах адбыліся набажэнствы за поспехі ў краіне. Ва ўрачыстасці каля Помніка невядомаму салдату ў Варшаве ўдзельнічаў мітрапаліт **Васілій**.

**Казанскі сабор на Краснай плошчы ў Маскве** будзе адбудаваны. Мітрапаліт Масквы і ўсяе Русі **Алексій** пасвяціў у дзень Маці Божай Казанскай (4 лістапада) краевугольны камень. Храм гэты быў узведзены ў 1636 г. у памяць перамогі ў вайне з Польшчай і разбураны дакладна 300 гадоў пазней па загаду Сталіна.

**У гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі** ў гарадах Савецкага Саюза адбыліся ваенныя парады і маніфестацыі. **У Маскве Міхаіл Гарбачоў і Барыс Ельцын** ішлі на чале маніфестацыі насельніцтва, якая адбывалася пасля ваеннага парада. **У Вільні,** насуперак рашэнням парламента і ўрада Літвы, на праспекце Гедыміна адбыўся ваенны парад. Сабраныя людзі скандавалі: „Акупанты дамоў". **У Мінску** альтэрнатыўную дэманстрацыю арганізаваў на плошчы Коласа БНФ „Адраджэнне". Адзін з лідэраў БНФ віншаваў сабраных са „святам канца камунізму".

**Міністэрства ўнутраных спраў Польшчы** паінфармавала, што паліцыя перадала ў дары палякам на Беларусі дзве машыны маркі „Ныса". Адзін самаход быў ахвяраваны Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, другі — Таварыству палякаў на Беларусі.

**У Беластоку,** родным горадзе Людвіка Заменгофа, прабывала група кінематаграфістаў з Масквы. Рабілі яны тут здымкі да дакументальнага кінафільма пра ўзнікненне эсперанта і яго стваральніка.

**Беластоцкія пажарнікі** святкавалі юбілей 115-годдзя. З гэтай нагоды быў ім уручаны сцяг ад жыхароў Беластока і мясцовых прадпрыемстваў.

**Адкрыццё культурна-асветніцкага 1990/1991 года** адбылося ў Галоўным праўленні БГКТ. Была зроблена справаздача і намечаны планы дзеянняў на новы сезон (да гэтай тэмы вернемся ў асобнай публікацыі).

**Кандыдат на прэзідэнта Станіслаў Тымінскі** на сустрэчы ў Пунску сказаў, што ўсе нацыянальныя меншасці павінны мець роўнае права на развіццё сваёй мовы і культуры, на свабодны доступ да працы і добрых заробкаў.

### I АГЛЯД БЕЛАРУСКАГА ФІЛЬМА

**У пятніцу, 16 лістапада 1990 г. а 17 гадзіне ў будынку ГП БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11, пачнецца Першы агляд беларускага мастацкага фільма. У праграме прадбачваецца паказ фільма Міхася Пташука „Наш бранепоезд", які расказвае аб часах сталіншчыны.**

**Ад 16 да 23 лістапада г.г. у кіназале ГП БГКТ будуць дэманстравацца лепшыя беларускія кінафільмы: „Ідзі і глядзі", „Знак бяды", „Маці ўрагану", „Дзікае паляванне караля Стаха", „Мяне завуць Арлекіна", „Чужая бацькаўшчына". Фільмы можна будзе паглядзець таксама ў Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, Гарадку, Дуброве-Беластоцкай ды іншых мястэчках і вёсках Беласточчыны. Перад сеансамі прадбачваюцца сустрэчы з рэжысёрамі, сцэнарыстамі і акцёрамі.**

**Шчыра запрашаем любіцеляў беларускага кіно!**

# Чэслаў Мілаш аб беларусах і Беларусі

Польскае выдавецтва „Czytelnik" выпусціла ў 1990 г. кніжку п.з. „Rodzinna Europa", напісаную Чэславам Мілашам. Аўтар даволі многа ўвагі прысвячае справам беларускім. Найбольш абшырны „беларускі фрагмент" змяшчаецца на стар. 61-62. Вось ён:

„...Polaków i Litwinów łączyła wspólna niechęć do religii prawosławnej i jej wyznawców. Odium spadało na Białorusinów, znanych z bierności, niezaradności i pokory wobec losu.

Przyznam się, że Białorusini są dla mnie dotychczas zagadką. Wielki obszar, zamieszkały przez masę stale uciśnioną, mówiącą językiem, który można by określić jak pomost pomiędzy polskim i rosyjskim, z poczuciem narodowym jako najpóźniejszym produktem nacjonalistycznych ruchów w Europie, z gramatyką ułożoną dopiero w XX wieku. Natykamy się tutaj na płynność wszystkich definicji i taka masa łatwo zamiast być podmiotem, może stać się przedmiotem w rękach obcych. Moskwa popierała szkoły i otworzyła pierwszy białoruski uniwersytet, równocześnie tępiąc separatystyczne tendencje, aresztując i deportując patriotów, a nawet usuwając z białoruskich słowników wyrazy zanadto odległe brzmieniem od rosyjskiego. Warszawa prowadziła politykę absurdalną, zakazując, z paroma wyjątkami, odrębnych szkół i stosując więzienie jako środek przeciwko wszelkim próbom organizacji od dołu. Trzeba jednak przyznać, że jej urzędnicy stanęli przed wyjątkowo trudnym dylematem. Nic ich nie przygotowało do tego zadania, bo nigdy dotychczas nie istniało pojęcie białoruskiego narodu, a język był uważany za miejscowe narzecze (...). Jeżeli, przezwyciężając te psychologiczne opory, pozwalali na zakładanie odrębnych szkół, wyniki okazywały się z ich punktu widzenia jak najgorsze. Chłopski syn, rozwijając poprzez wiedzę swoje dobrze ugruntowane urazy, dostępował pierwszego stopnia cywilizacyjnego wtajemniczenia, tj. prawie z reguły zostawał komunistą i działał na rzecz „reunifikacji", tj. odcięcia od Polski jej wschodnich województw.

W tym bezkształtnym społeczeństwie wiejskim brak było węzłów krystalizacji, tak wyraźnych u Bałtów. Stąd być może gotowość przyjęcia takich węzłów z zewnątrz. Jedno jest pewne, że Białorusinom nigdy nie wiodło się dobrze i że dano im, jak złapanej rybie, do wyboru pomiędzy patelnią i garnkiem, tj. pomiędzy polonizacją i rusyfikacją.

W Wilnie zresztą niewielu ich sprawy interesowały. Chłopi w długich kożuchach, przywożący płody rolne na rynek, odzywali się mową, którą najczęściej niełatwo byłoby zaklasyfikować do polskiego czy do białoruskiego. Ku rozpaczy ich bardziej świadomych braci nie rozumieli (...), co znaczy narodowość, i zapytani o nią odpowiadali zwykle: „prawosławny" albo „katolik".

У іншым месцы (с. 26) Мілаш сцвярджае, што „językiem ksiąg prawnych w Wielkim Księstwie Litewskim był dialekt, który nigdy nie miał w pełni się rozwinąć i do którego następnie zaczęli się przyznawać Białorusini". На стар. 71 растлумачвае, што „w przeciwieństwie do arystokracji, która przyjęła szlachecką kulturę polską, chłop (літоўскі — П.Б.) nie polonizował się, ulegał natomiast wynarodowieniu dwóch stopni:

(Працяг на стар. 5)

## Сустрэчы з паэзіяй

19 кастрычніка. Беласток. Апошнія промні сонца спозненага бабінага лета заліваюць вуліцы горада.

Мы ўдваіх з Галінай Дзятілевай, доўгавалосай і сінявокай артысткай з Мінска, сядзім на лавачцы ў скверыку, засыпаным золатам восені. Галіна ўся ў настроі пафасу ад беластоцкіх сустрэч, ад уражанняў. Яе мілагучны голас ліецца гладка, пранікнёна, вочы гараць, калі яна дэкламуе глыбокія, шматзначныя строфы з забароненых да гэтага часу вершаў Янкі Купалы.

Дыскутуем аб ролі паэзіі, сцэнічнага і мастацкага слова ў фармаванні нашай, беларускай свядомасці. Патрэбна яна, паэзія, проста неабходна, нам тут, на Беласточчыне. Але і там, у Беларусі, можа зусім не ў меншай меры. Гаворым аб вялікай місійнасці акцёра, паэта, мастака.

— Патрэбны людзі, якія ўмеюць заглянуць у душу чалавека, пасябраваць з ім, дапамагчы чалавеку знайсці самога сябе. Гэта вельмі важна. Неяк я прачытала, што быў у нас час, калі адзін чалавек нічога не мог. А цяпер я ведаю, колькі адзін чалавек можа. Асабліва, калі чалавек гэты — талент. Вось як Скарына! Адзін жа адзінюсенькі быў! А колькі ж зрабіў вялікага і добрага! Так вось і з нашым тэатрам аднаго акцёра. Праўда, гэта праца групы людзей. Але на сцэне акцёр адзін. І сіла яго слова, яго асабовасці прамаўляе да гледача і слухача. Ды і арганізацыйна такі тэатр значна спраўнейшы: кудысьці паехаць на гастролі — гэта ж адзін толькі чалавек — узяў ды паехаў.

Тут Галіна мае на думцы нсваўтвораны пры Беларускай дзяржаўнай філармоніі Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра. А падставай да гэтага стала пастаноўка монаспектакля „Выгнанне ў рай", аўтарамі якой з'яўляюцца рэжысёр Вяргінія Тарнаўскайтэ і мастацтвазнаўца Вольга Амроміна, выступіўшыя пад супольным псеўданімам Н. Рапа. Выканаўца гэтага спектакля — Галіна Дзятілева, заваяваўшая ў 1989 годзе ролям у гэтай п'есе званне лаўрэата і 1 дыплом на фестывалі „Студыйныя каляды" ў Мінску.



Але пачалося ўсё значна раней, калі Галіна змяніла прафесійную тэатральную сцэну на працу ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Вялікім поспехам у гледачоў карысталіся тады і цяпер таксама яе сольныя канцэртныя праграмы па творчасці сучасных паэтаў, блізкія яе сэрцу. Першы такі канцэрт быў па творах супрацоўніка тэатра і асабістага сябра Галіны паэта Югена Чабана. Яго задушэўныя, вострыя і шчырыя словы аб жыцці, Радзіме, маці, аб чалавечых трагедыях Галіна, па сутнасці, адкрыла нанава беларускаму гледачу. Падобную праграму падрыхтавала яна і па творчасці Анатоля Вярцінскага, паэта, празаіка і публіцыста. Во і ў яго глыбокіх творах артыстка знайшла ўласныя думкі, свае асабістыя пачуцці. „Выбіраю ў праграму толькі тое, што вельмі люблю", — гаворыць яна.

Паэтычныя сольныя канцэрты Галіны Дзятілевай звярнулі на сябе ўвагу беларускай грамадскасці, сталі культурнай падзеяй горада. Аб іх загаварылі. Артыстку пачалі запрашаць з канцэртамі ў розныя залы горада, у школы, у літаратурныя музеі, на выстаўкі. Асаблівае сяброўства наладзілася ў яе з музеем Янкі Купалы, калі яна выступіла там з паэтычнай праграмай „Мне сняцца сны аб Беларусі" — па невядомых дагэтуль, бо забароненых, вершах нашага песняра.

І вось „Выгнанне ў рай" на беластоцкай сцэне.

Глыбока паэтычная ў сваім трагізме старонка з нашай гісторыі: X стагоддзе, на магутнае дагэтуль Полацкае княства находзіць кіеўскі князь Уладзімір са сваімі войскамі, спусташае багатыя спакойныя землі, трупамі засцілае горад і гвалтам забірае маладую, 14-гадовую князёўну Рагнеду, дзяўчыну нечуванай прыгажосці, але нарачоную ўжо суседняму князю Яраполку. Уладзімір з дымам пускае стары Полацак, выразаўшы ў пень усё жывое, у тым ліку забіўшы і князя Рагвалода. Прыбітая горам Рагнеда, сілком прывезеная ў Кіеў, становіцца жонкаю Уладзіміра.

У вельмі паэтычнай форме, зусім простымі па форме спосабамі — уласным акцёрскім майстэрствам, Галіна Дзятілева перадае гледачу глыбокі душэўны працэс даспявання маладой князёўны, працэс паступовага ўсведамлення і пераасэнсавання ўсяго таго, што адбылося, і зразуменне ўласнай чалавечай і нацыянальнай годнасці. І якраз гэтае ўсё накіравана да нас, у наш сённяшні дзень, такі ж складаны і небяспечны, цяжкі, але і вельмі важны. Гэта нашаму сягоняшняму гледачу патрэбна пераасэнсаванне перажытага, абуджэнне з нацыянальнага летаргу і ўсведамленне сваёй нацыянальнай тоеснасці. І як дакор сённяшнім і ўчарашнім уладарам Беларусі гучыць крык Рагнеды: „Багі мае, Багі, не змаглі вы Полацак абараніць!"

Спектакль вельмі сціплы ў дэкарацыях. Уся эмацыянальнасць і ўздзеянне яго — у майстэрстве паслугоўвацца словам, жэстам, у кантакце са слухачом.

Глыбокі і патрыятычны гэты спектакль. І неяк зусім не заўважаецца, што на сцэне нікога з персанажаў больш няма. Ёсць толькі яна — Рагнеда, яна — Галіна Дзятілева.

Мы, беластаччане, можам толькі дзякаваць, што давялося нам прысутнічаць на гэтым містэрыуме. Не ўсім, хто хацеў бы, гэта ўдалося. Падвяла, як заўсёды ў нас, слабая інфармацыя аб выступленні.

З гэтым жа спектаклем артыстка выступіла і ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. Для бельскіх ліцэістаў Галіна Дзятілева дала паўтарагадзінны паэтычны канцэрт. А малыя дзеці з падставовых школ у Чыжах, а затым у Орлі і Кляшчэлях, маглі ўдзельнічаць у размовах з артысткай аб беларускай паэзіі, нават самі дэкламавалі вершы. Сустрэча Галіны Дзятілевай з беларускімі слухачамі адбылася і ў Варшаўскім аддзеле БГКТ.

Незабыўныя для ўсіх прысутных размовы адбыліся і ў Бельску ў кватэры нашай паэтэсы Надзеі Артымовіч. Сюды на сустрэчу з мінскай артысткай сабралася моладзь з самадзейнага беларускага тэатра „Парнас". Тут не абышлося і без прафесіянальных дыскусій аб беларускай паэзіі на сцэне, аб падыходзе да яе і аб мастацкіх спосабах яе ўвасаблення. А Надзея Артымовіч чытала свае вершы.

З таго дня Галіна Дзятілева носіць у душы чароўныя, як прызналася, вершы Надзі, захоплена яе лірыкай і марыць зрабіць з гэтага нешта цікавае ў сваёй сцэнічнай творчасці.

Галіна Дзятілева вярнулася на радзіму. А мы дзякуем ёй за шчырае беларускае слова, за ахвоту падтрымаць, падмацаваць нас на духу, за хвіліны глыбокага ўсхвалявання ў кантакце з яе талентам.

Маем надзею, што гэта не апошняя яе пабыўка на нашай зямлі.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**

## Пачалася праца па-новаму

Як стала вядома, 14 жніўня 1990 года Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", існуючае ад 1958 года, было зарэгістравана як юрыдычная самастойная адзінка. Гэта дае нашаму літаб'яднанню перавагу над асобнымі аддзеламі; яно будзе трактавацца цяпер нароўні з Саюзам пісьменнікаў. „Белавежа" зможа, такім чынам, адкрыць уласны рахунак у банку, наладжваць самастойныя кантакты з падобнымі арганізацыямі ў краіне і за мяжою, а ў выніку гэтага прыцягнуць у свае рады больш маладых аўтараў і разгарнуць шырокую выдавецкую дзейнасць, з якой у апошнія гады яна мела вялікія клопаты.

У новых умовах праўленне „Белавежы" прыйшло да высновы, што літаратурныя семінары, якія адбываліся адзін-два разы ў год, цяпер было б недастаткова. Кантакты трэба зрабіць больш цеснымі, а сустрэчы часцейшымі. Аўтары ёсць і ёсць запатрабаванне на такія сустрэчы.

21 кастрычніка г.г. адбылася першая такая сустрэча ў будынку Галоўнага праўлення БГКТ. Ян Чыквін, старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", сказаў нам:

— Мы спрабавалі наладзіць першы вечар інакш. Адыходзім ад штыўнай канцэпцыі аўтарскіх сустрэч, калі аўтар сядзіць на сцэне і адказвае з трыбуны на пытанні чытачоў, якія прыйшлі на сустрэчу. Хочам знайсці такую канцэпцыю, каб кожны прысутны адчуваў сябе роўным сярод роўных. І таму гэтыя літаратурныя сустрэчы задуманы як штомесячныя. Яны адкрыты не толькі „белавежцам", але і ўсім, хто цікавіцца літаратурай.

Першая сустрэча была прысвечана творчасці Віктара Шведа і аказалася надта дзейснай. Хоць людзей сабралася няшмат, але склад быў адборны. Асаблівае зацікаўленне выклікалі два апошнія зборнікі нашага вядомага „белавежца" — „Мая зялёная Зубровія", выдадзены ў Мінску ў гэтым годзе, і „Родны схоў" пад рэдакцыяй Яна Чыквіна, які зараз знаходзіцца ў друку. Яны, менавіта а таксама ненадрукаваныя вершы падаваліся асабліваму разгляду.

Выступленні былі цікавыя, а найлепшым доказам гэтага было тое, што ніхто не спяшаўся разыходзіцца, хаця і так сустрэча працягвалася больш трох гадзін.

Ян Чыквін выступіў, як заўсёды, у якасці строгага і патрабавальнага, хаця і добразычлівага крытыка. Ён жа падбіраў Віктаравы творы для „Роднага схову" і ён як паэт-лірык выбраў... найбольш лірычныя.

Яні Чэрнякевіч стала крыўдна за дзіцячыя вершы В. Шведа, якіх толькі ў „Зорцы" сёлета яна пусціла каля двухсот. Чаму ж іх не ўключылі ў зборнік?

Негуючы ўсё і ўсіх Сакрат Яновіч заўважыў, аднак, што можна быць добрым паэтам, напісаўшы толькі адзін верш.

Слухаў усё гэта ўважліва Юрка Валкавыцкі. І ўрэшце не вытрымаў і выступіў у ролі „Луки-утешителя": Віктар Швед — гэта ж сапраўдны місіянер, на кожную нагоду ён мог напісаць верш і рабіў гэта!

А Віктар Швед у сваім слове дадаў яшчэ, што ў гэтай сваёй місіі ён быў вельмі шчыры і верыў у тое, што рабіў.

Выступала таксама доктар філалагічных навук з філіі Варшаўскага ўніверсітэта Тэрэса Занеўская, а так па-праўдзе кожны меў што сказаць. І такім чынам далажылі Віктару!

Яшчэ аўтар па просьбе прысутных чытаў свае вершы, удалося і мне неяк уціснуцца і прачытаць два ягоныя вершы (па свайму выбару). Творчасць Віктара Шведа настолькі трывала звязана з жыццём Беласточчыны, што незалежна ад таго, падабаецца яна камусьці ці не, яна ўжо ўвайшла ў нашу кроў. Па яго вершах спяваюцца песні.

Цешыць тое, што праўленне „Белавежы" мае шырокія планы. Мяркуюць, каб сустракацца і з замежнымі госцьмі, а семінары для членаў „Белавежы" будуць адбывацца надалей.

На 25 лістапада г.г. запланавана чарговая беларуская літаратурная сустрэча, дзе пунктам зыходжання літаратурнай дыскусіі будзе творчасць Сакрата Яновіча. Адбудзецца яна ў ГП БГКТ а 12-ай гадзіне. Цяпер трымайся, Сакрат!

**(Працяг на стар. 5)**




## ЯК Я СТАЎ КАПУЦЫНАМ

Інж. Б. Рудкоўскін свайго часу напісаў апавяданне (яно яшчэ нідзе не друкавалася), у якім „зрабіў“ мяне мусульманінам. Не ведаў, бадай, шаноўны аўтар, што ў школьныя гады давялося мне „быць“ і капуцынам. А было гэта так!

Вучыўся я тады ў другім або трэцім класе. Хлапец з мяне быў вельмі нясмелы і апрача вучобы я нічым не мог выклікаць павагі ў сяброў. Аднойчы на школьным панадворку рабочыя падагравалі ў вялікім катле смалу. Побач стаяла бочка, у якой знаходзіліся астанкі цвёрдай смалы. Яшчэ падчас урока я запланаваў, што на перапынку падкраду з бочкі крыху таго „пякельнага“ рэчыва і зраблю галачку для забавы. Як падумаў, так і зрабіў. Убачылі гэта мае сябры і таксама давай ныраць рукамі ў бочку. Смалы хапіла на некалькі дзесяткаў галак. Пра наш „поспех“ даведаліся неўзабаве і старэйшыя вучні. Калі пазваніў званок на ўрок, яны сталі ля ўвахода ў школьны будынак і правяралі кішэні малодшым сябрам. Такім чынам нашы „скарбы“ пачалі мяняць уласнікаў. Я схітрыў — схаваў галку пад шапку.

Калі я зняў шапку і хацеў выняць галку, з перапалохам у вачах сцвердзіў, што яна прыклеілася да валасоў. Што ж рабіць? А тут і бацюшка Пушкарскі ўвайшоў у клас, бо якраз выпадаў урок рэлігіі. Прынізіўся я ў парце як толькі мог, нацягваючы адначасова шапку глыбока на вушы. Але надарма! Бацюшка хутка ўбачыў маю правіннасць і востра загадаў мне зняць галаўны ўбор. Калі сябры ўбачылі мяне з дужай чорнай галкай смалы на галаве, проста паскручваліся са смеху. Яны смяяліся, я ледзь паўстрымоўваўся ад плачу, а бацюшка даваў мне прыгану за прыганай — ён быў перакананы, што я зрабіў гэта спецыяльна. Нарэшце адправіў мяне дамоў, каб бацькі аддзялілі „чартовіну“ ад галавы.

У хату прыбег я маланкава — бацькоў аднак не было, працавалі ў полі. Доўга не думаючы, схапіў у руку нажны, стаў перад люстэркам і даў па валасах. Няшчасная галка адпала. Задаволены, пабег я ізноў у школу. Калі адчыніў дзверы ў клас і пераступіў праз парог, мае сябры нанава выбухнулі смехам. Хтосьці крыкнуў у мой бок: „Капуцын!“. Я дакрануўся да галавы і намацаў кружок голай скуры. Відаць, спяшаючыся, я занадта прырэзаў валасы. Бацюшка ізноў узлаваўся. Сказаў мне сесці за парту і папярэдзіў, што калі яшчэ штосьці такое ўчыню, пакліча ў школу бацькоў. Але я ў той момант думаў, каб толькі сябры не падхапілі таго „капуцына“ і не называлі мяне так. На шчасце, гэтая мянушка не прыклеілася да мяне.

Ад таго здарэння мінула шмат гадоў. У мяне паявілася даволі вялікая лысіна. І толькі бацькі часам зажартуюць: не трэба было смалу на галаву класці!

**Пётр Байко**



*Помнікі культуры*

## Царква ў Бранску

Ранняя гісторыя Бранска дэталёва не была вывучана. Археалагічны матэрыял пацвярджае існаванне ў наваколлі горада славянскага асадніцтва. У 1038 г. кіеўскі князь Яраслаў Мудры захапіў землі, якія пазней сталі называць Падляшшам (Падляссем). Перад 1154 г. землямі паміж Бугам і Нарвай авалодаў валынскі князь Ізяслаў Мсціслававіч. Пасля яго смерці з Валынскага княства выдзялілася Брэсцка-драгіцкае княства, якое падпарадкавала сабе землі над сярэднім цячэннем Нурца, праўдападобна, і Бранск.

У XIII ст. у напрамку Драгіцкага княства ішло моцнае рускае асадніцтва з Валыні. У XIV ст. Бранск належаў ужо да Літвы. У 1413 г. Бранск уваходзіў у склад новастворанага Троцкага ваяводства. Княжацкі замак быў пабудаваны, праўдападобна, у XV ст. на штучнай гары пры вусці ракі Бронка ў Нурэц. Да сёння гэты пагорак называюць „Замчышча“. У пісьмовых крыніцах з'явіліся званні бельскага і бранскага ваяводы, бранскага земскага суддзі, бранскага намесніка. Самыя раннія бранскія земскія акты пачынаюцца з 1466 г. 18 студзеня 1493 г. Вялікі князь літоўскі Аляксандр выдаў гораду грамату на магдэбургскае права, адкрываючы такім чынам новую эпоху ў яго гісторыі. Пасля смерці Аляксандра кароль Зыгмунт Стары надаў Галене, удаве па сваім брату, у пажыццёвае карыстанне бельскі замак з гарадамі Бранск і Сураж.

Некаторыя даследчыкі мінулага Бранска мяркуюць, што ў часы каралевы Галены ўзнікла тут царква. Зразумела, што горад здаўна, апрача фундацыі каталіцкага касцёла ў першай палавіне XV ст., мусіў мець храм усходняга абраду.

З інвентара 1558 г. Бранскага і Суражскага старастваў можна даведацца аб існаванні царквы ў Бранску, а ў рэестры з 1560-1563 гадоў дэталёва апісана царква і грунты рускага папа з дыяканам. Царква знаходзілася на вуліцы Козяй, званай таксама Козіным Рынкам. Пры гэтай вуліцы размяшчаўся рускі могільнік, а зямля і пляцы духоўнікаў былі раскінуты па розных частках горада.

У Бранскім старастве пражывала польскае (галоўным чынам асаднікі з Мазоўша) і „рускае“ насельніцтва. Прапорцыі польскага і „рускага“ насельніцтва прадстаўляліся як 1:4. Бранскае староства належала да той часткі Падляшша, дзе „рускі“ люд у XVI ст. быў шматлікі. У XVII, а асабліва ў XVIII ст. прапорцыі гэтыя змяніліся ў карысць польскага насельніцтва. Тэрыторыю вакол Бранска нездарма ўжо ў XVI ст. лічылі „шляхецкім гняздом“. Гэта і стала прычынай, што земскія (аж па 1768 г). і гродскія суды адбываліся не ў Бельску, а ў Бранску.

Пасля Брэсцкай уніі ў 1596 г., дакладна невядома калі, бранская царква стала уніяцкай. Вядома, што прэзбітар бранскі Ян Гарасімовіч у 1633 г. быў драгіцкім дэканам. З пагалоўнага рэестра з 1676 г. даведваемся, што ў горадзе 206 чалавек плаціць 522 злотых, а свяшчэннік, дзеўка, дзяк і парабак — чатыры чалавекі, плацяць 14 злотых.

Візітацыя царквы ў 1727 г. адзначыла, што ў склад прыхода ўваходзілі: Бранск, Зані, Свірыды, Залускія-Старыя, Буйнова, Бронка, Ярмакоўшчына, Кярснова, Селец, Галёнкі, Жагуні і



*Царква ў Бранску, філіял Малешскага прыхода.*

Аляксандр Максімюк

# У ЦЯНІ ВАТЫКАНУ

### 1. УРАЖАННІ І СУЗІРАННІ

Неабходнае хваляванне ўспрыманым — сама лепш, калі ты не ў змозе авалодаць ім: яно шэрай Адрыятыцы прыдало кастрычніцкі блакіт дый захавала ў капрызлівай памяці паштовачную сінечу марскіх хваль. Сонныя вочы блыталі краявіды за акном цягніка з перажытым мінулае начы. Шалёны аўтастоп па Заходняй Аўстрыі завяршыўся апоўначы на італьянскай мяжы, каля Філах, адкуль меў адчыніцца новы шлях — у Венецыю. Італьянскія пагранічнікі праганялі бадзяг з аўтастрады на звычайную шашу, на якой аднак жа, рух гэтаю парою быў марнаваты. Не было іншага выйсця, як сесці на ўскрай дарогі і папачакаць. Альпійскі клімат спаць не дазволіў, нават калі я ахінуўся сваім спальным мяшочкам. Цудоўнае сонечнае надвор'е ноччу зменьвалася ў прымаразкі. Прыгадваліся першыя дасведчанні. Трапіўшы аднойчы вечарам у Бельск, задумаў аўтастопам дабрацца ў Гайнаўку. Закончылася тым, што намёрзся тады здорава і паехаў апошнім начным цягніком, з п'янюгамі. Ды на што тут спадзявацца глыбокай ноччу ў гэтай краіне класавага прыгнёту не на жарты і з мафіёзі ў прыбаўку? Свае надзеі на далейшае падарожжа адклаў да рання. Якое ж было маё здзіўленне, калі з піскам колаў спыніўся малады гаманлівы італьянец у сваёй элегантнай машыне і. быццам пра гадзіну, запытаў, ці не хацеў бы я, выпадкам, пад'ехаць з ім маленькі кавалак. Стрэлка імгненна дагнала сотню і ўсталявалася за ёю, паблізу шаленства, а мы, мала-памалу завялі па-англійску размову пра рамантыку падарожжа аўтастопам. За шыбінамі калярова гарэў свет начнога капіталізму.

Раніцай, калі на чыгуначным вакзале ў пагранічным мястэчку лавіў хвілінкі кароткa-інтэнсіўнага сну, невядома адкуль узяўся той паліцыянт і сваім руплівым вокам хуценька распазнаў чужынца ў натоўпе. Сэрца напоўнілася жахам. Хіба ж такі будзе канец падарожжа? Буржуазны ахоўнік парадку не намерваўся, аднак, завярнуць мяне з шляху, а, так сказаць, пераканаўшы ўсяго ў тым, што ў буржуазных дэмакратыях паліцыя ўсё-такі спярша ставіць пытанні, а пазней страляе, адпусціў, пажадаўшы шчасліва даехаць да мэты. Перада мною канчаткова адчыняла свае вароты Італія.

На вакзале першае лінгвістычнае змаганне — з прадаўшчыкам білетаў. Гаворыце паанглійску? Не. Шкада, бо я паітальянску таксама не. Як тут быць? Схапіўся апошняй, не скажу, што зусім верагоднай, магчымасці — па-беларуску? На жаль... За шыбай дабрадушная ўсмешка. У Вене ж, сам бачыў, як адзін паляк адчайна крычаў на вакзале „дайце мі пенць білетув“. Яго зразумелі. Куды нам, аднак, да такое нахабнасці...

Незабыўнае ўсхваляванне, калі цягнік набліжаецца да Вене-

# Беларускі музей адкрыты!

(Працяг са стар. 1)

Беласточчыне. А беларусы атрымаюць помнік сваёй культуры, які яшчэ не існаваў па-за межамі Беларусі.

Вельмі сардэчна павітаў адкрыццё музея гайнаўскі святачэннік старэйшага пакалення айцец Дзевятоўскі.

— Цешуся, — сказаў ён, — што дачакаліся мы гэтага моманту. Цяпер Гайнаўка — гэта найбольшы, наймацнейшы ў Польшчы цэнтр беларусаў і праваслаўя. Цешуся, што тут так добра развіваецца наша культура, што едуць да нас госці з Еўропы і Амерыкі. Няхай усе пабачаць нашую прыгожую царкву, а цяпер і беларускі музей.

Ад імя мінчукоў, якіх даволі многа з'ехалася на гэтую ўрачыстасць, выступіў выдатны беларускі мастак Аляксей Марачкін, старшыня мастацкай суполкі „Пагоня", якая існуе ў межах Саюза мастакоў Беларусі. Ён прыгадаў, як збіраюцца ў народзе экспанаты на этнаграфічныя музеі, як нясуць людзі, як мурашкі, усё тое ў музей, што гадамі служыла ім ці іх бацькам і дзядам. Так і тут яно ёсць.

— Веру, — сказаў ён, — што сцежкі, якія пратаптаў народ сюды, не зарастуць, пойдуць сюды людзі, а нашы кантакты будуць разбудоўвацца і ўзмацняцца.

Група „Пагоня", якая аб'ядноўвае найбольш свядомых беларусаў сярод мастакоў, прыехала на адкрыццё музея з вельмі багатай выстаўкай — дзве залы цудоўных мастацкіх палотнаў, пераважна на тэмы мінулага Беларусі, выдатна ўпрыгожылі ўрачыстасць адкрыцця музея. Уваходзячых наведвальнікаў у поўны рост павіталі з карцін таямнічая Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Кастусь Каліноўскі, легендарны князь Вітаўт і іншыя. Лірычныя пейзажы, этнаграфічныя замалёўкі (цудоўная невялічкая карціна „Хлеб" Уладзіміра Хадаровіча — як настальгія па колішняй вясковай бацькоўскай хаце, з боханам пахучага чорнага хлеба на стале), цудоўна лірычны вобраз Аляксея Марачкіна „Суладдзе" як сімвал гармоніі ў прыродзе — дзве чароўныя жаночыя постаці ў подыху ветру і імглы — усё гэта пакідае незабыўнае ўражанне.

Свае работы на выстаўцы паказалі таксама Уладзімір Сулкоўскі, Віктар Маркавец, Рыгор Батальёнак, Валянціна Святахоўская, а таксама графікі Мікола Купава, Яўген Кулік і браты Басалыгі. Адзінаццаць скульптур прывёз з сабою беларускі разьбяр Аляксандр Шатэрнік. І яго ўяўленне фасцынуе наша вялікая, хоць вельмі трагічная гісторыя.

Беларускія мастакі ўклалі шмат працы і ў арганізацыю экспазіцыі ў музеі. Тут уласнай творчай думкай і ўласнымі рукамі праявілі сябе мастакі Хведар Ладуцька і Ігар Марачкін. Дзякуючы ім музейны калідор ператварыўся ў яшчэ адну выставачную залу — у салон беларускай графікі і плакату, а этнаграфічныя экспанаты беластоцкіх, гайнаўскіх і бельскіх вёсак аказаліся ў кампаніі цудоўна вышываных ручнікоў і дываноў з Беларусі, мясцовыя драўляныя прылады для апрацоўкі ільну (мялкі, трапалы, матавілы, часалкі, вітушкі) ды старыя дзежкі, жорны і збаны аказаліся па-суседску з мастацка выплеценымі фігуркамі з саломы. Вялікае зацікаўленне гледачоў выклікаў вельмі стары самаробны такарны станок, старыя калаўроты ды розныя сталярскія ды сялянскія інструменты.

Такім чынам музей наш беларускі адкрыўся. Можна цяпер яго наведваць, а ў ім цэлы месяц будзе адкрыта мастацкая выстаўка творцаў мінскай „Пагоні".

Перад адкрыццём музея адбылася ўрачыстая сесія. На ёй прысутнічалі шматлікія госці з Польшчы і Беларусі. Прадстаўнікі Беларускага фонду культуры з Мінска і Гродна, прадстаўнікі таварыства „Радзіма" і Беларускага народнага фронту „Адраджэнне", госці з Дома савецкай культуры ў Варшаве і пасольства СССР у Польшчы, прадстаўнікі ваяводскіх і гмінных улад Беласточчыны, дзеячы нашага таварыства, Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, самастойнага цяпер літара-



*На адкрыццё музея сабралася шмат гасцей.*

# ПАД ЗРОКАМ ЗАХАДУ

(Працяг са стар. 1)

тынг за салідарніцкіх кандыдатаў, з канцэртам поп-музыкі, з выступленнем зоркі кабарэ Яна Петшака. Здавалася, што тут, у гэтую нядзелю, сабраўся ўвесь горад. Пакінуўшы мітынг з адным польскім сябрам, мы па дарозе праходзілі каля будынка філармоніі. Пад уплывам нейкага імпульсу мой сябра завёў мяне туды.

Цемра, набожная засяроджанасць, сакавітыя басы. Тут у біткам набітай зале, у экстазе, сядзеў зусім іншы Беласток, слухаючы ў выкананні расейскага хора праваслаўную царкоўную музыку, Беласток, для якога салідарніцкі ўзнёслы фэст польскага патрыятызму і свабоды, што адбываўся некалькі сотняў метраў наводдаль, не меў істотнага значэння. Гэта былі беларусы, і польскі сон аб свабодзе не быў іхнім сном.

У горадзе, побач з салідарніцкімі афішамі, я згледзеў некалькі малых афішаў, аддрукаваных кірылічным шрыфтам. Я спытаўся ў салідарніка, каго прадстаўляюць здымкі на афішы. „А, гэта Сакрат Яновіч,, фанатычны беларускі нацыяналіст, дамагаецца двухмоўных назоваў вуліц і таму падобнага".

А той другі?

„Гэта Генік Міраповіч, яшчэ адзін беларускі дзеяч, настаўнік".

У Варшаве Лех Валэнса і і Грамадзянскі камітэт (так называлася выбарчае бюро „Салідарнасці") нацiскалі на „Салідарнасць" у Беластоку, каб яна паставіла ў свой выбарчы спісак Міраповіча як кандыдата ў Сейм. Але мясцовы Грамадзянскі камітэт у Беластоку супрацьставіўся ягонай кандыдатуры. „Мы прызналі, што пра яго ніхто ніколі не чуў..."

Пасля гэтае размовы я ўжо ведаў, што ў Беласток мне давядзецца вярнуцца. У кожным іншым месцы Польшча можа вам падацца амаль такой самай: анархічнай у дробязях, але жудасна аднароднай у агульных абрысах. Практычна ўсе гавораць па-польску з аднолькавым акцэнтам, практычна ўсе — каталікі, амаль усе — антыкамуністы і анты-расейцы, і ўсе цытуюць тыя самыя радкі з тых самых рамантычных паэтаў. А тут, на паўночна-ўсходзе, было месца, з якога я ўбачыў Польшчу ў новым святле. Тут, урэшце, былі нармальныя розніцы, якія выступаюць у большасці еўрапейскіх краін — розніца ў мове, розніца ў рэлігіі, у палітычных поглядах. Тут, падумалася мне, „польскасць" выявіцца ў поўнай перспектыве, у святле і цяні, у трох вымярэннях.

Я вярнуўся сюды 13 жніўня. (...)

У нядзелю я пайшоў на праваслаўную багаслужбу. Царква на вуліцы Ліповай, у цэнтры горада, была пабудавана ў сараkавых гадах XIX ст., калі Беласток прыналежаў імперыі, і сюды хадзілі маліцца царскія чыноўнікі і афіцэры. Цяпер моляцца ў ёй не ўладальнікі, а прадстаўнікі ніжэйшага класа: беларускай меншасці.

Я быў здзіўлены, пабачыўшы так многа маладых людзей у царкве. Старэйшае пакаленне падалося мне прысадзістым і кapатканогім. А маладыя былі амаль што веліканамі ў бабаўняных кашульках: яны хрысціліся на той замашысты і адрывісты праваслаўны манер, але нейк не пасавалі да гэтага месца, выдзяляючыся сярод сваіх бацькоў і сярод рэлігійнага рытуалу, адчувальна падкрэсліваючага чалавечую нікчэмнасць перад боскай існасцю. Святар і прыслужнікі раз-пораз заводзілі той самы ўрачысты басавы напеў; вернікі луналі ў экстатычным уздыме; свечкі ў руках святара ўзносіліся і апускаліся. Некаторыя людзі ляжалі ніцма. Несамавітае адчуванне, калі тут, у Польшчы, прысутнічаеш на багаслужэнні, пазбаўленым, на першы погляд, нацыянальнае (і нацыяналістычнае) афарбоўкі.

Але, відаць, мне толькі так падалося. Пазней я даведаўся, што якраз тыя высокія маладыя людзі і былі прадстаўнікамі нацыянальнага руху: якраз яны намерыліся прышчапіць беларускую палітыку праваслаўнаму асяроддзю. Гэта можа паказацца праявай выключна асабістай апантанасці, але ў ёй ёсць і задума грамадскай значнасці. Гэтым маладым людзям прыелася пасіўнасць іхняе Царквы, ейная прыкаванасць да рускае „старaславянскае" мовы. Яны дамагаліся роднае мовы — беларускае, якая не ёсць ні польскай, ні рускай — на падмену рускай, у царкоўным ужытку. У гэтым яны мелі падтрымку, як даведаўся я пазней, ад вялікіх асяродкаў беларускае эміграцыі ў Паўночнай Амерыцы.

Справы стаяць так, аднак жа, што Праваслаўная царква ў

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Настаўніца Ніна Абрамюк з членамі беларускага гуртка са школы ў Ласінцы.*

## Некалькі слоў аб Ласінцы

Да маленькай вясковай школкі ў Ласінцы ў мяне, як доўтагадовага рэдактара „Зоркі", асабліва моцны сэнтымент. Колькі тут было ў нас мілых сустрэч! Колькі супольных спраў!

Шмат гадоў тут існуе і вельмі актыўна працуе беларускі гурток, а ў ім дзве нават секцыі — тэатральная і паэтычная. Тэатральная секцыя ўжо шмат гадоў прымае ўдзел у нашых школьных тэатральных конкурсах, часам змагла выставіць нават адразу два спектаклі — з малодшай і са старэйшай групамі. Не было, мабыць, года, калі б гэтая школа не прыслала сваю пастаноўку на конкурс. З гэтымі ж пастаноўкамі вучні аб'ездзілі суседнія вёскі, выступалі з поспехам, падабаліся вясковым людзям, якія вельмі ж цэняць хоць маладых, але ж сваіх, дамарослых артыстаў.

Паэтычная секцыя паглыбляе свае веды аб беларускай паэзіі, члены яе самі прабуюць пісаць вершы, якія не раз друкаваліся на старонках „Зоркі". Члены ж гэтай секцыі — гэта таксама ўдзельнікі ўсіх дэкламатарскіх конкурсаў, якія арганізуе Беларускае таварыства.

Да ўсяго гэтага не магу не адзначыць, што ўсе дзеці ў гэтай школе вывучаюць родную беларускую мову. Бо і як жа інакш — усе яны паслугоўваюцца гэтай мовай штодзень, гэта мова іх роднай, бацькоўскай хаты.

У найбольшым з класных пакояў пастаянна знаходзіцца этнаграфічны музей. Тут сабраныя з навакольных вёсак гліняныя вырабы — саганы, збаны-дваякі, сівакі, драўляныя лыжкі, прасы, а таксама вісіць аўтэнтычнае народнае адзенне — дзедавы (ёсць прозвішча) нагавіцы, бабчыны спадніцы і вышываныя фартухі ды блузкі. Рэгулярна змяняюцца на выстаўцы розныя посцілкі, плахты, сурвэты, ручнікі. Усё гэта збірае беларускі гурток сярод сваіх сваякоў па Ласінцы і суседніх вёсках.

А кіруе ўсімі беларускімі справамі ў гэтай школе шматгадовая настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк. Удзячны ёй за такую адданасць і дзеці, і бацькі, і кожны, хто разумее патрэбу такой грамадскай дзейнасці, якую вядуць настаўнікі-беларусісты на нашых беларускіх вёсках.

**Тэкст і фота
Яніна Чэрнякевіч**

## ЗА ЧАНГ

### В'ЕТНАМСКАЯ КАЗКА

Жыў-быў стары чалавек За Чанг. Меў ён сваю хацінку і невялічкі садок, у якім была змяіная нара. Працуючы кожны дзень у садку, За Чанг часта бачыў жыхароў нары, ведаў, што гэта муж і жонка і што ходзяць яны заўсёды разам.

Аднойчы з нары вылез толькі змей. Зазірнуўшы ў нару, За Чанг убачыў, што змяя памяняла скуру і ляжыць слабая, амаль нерухомая. Стары паспачуваў ёй і з павагай падумаў пра змея, які адзін здабываў ежу і сабе і хворай жонцы.

Неўзабаве змяя ачуняла, пачала вылазіць зноў. Праз нейкі час скінуў старую скуру змей. Цяпер ён, знямоглы, ляжаў у нары, а жонка адна хадзіла на паляванне. Аднойчы, калі яна вярталася са здабычай, за ёй прыцягнуўся вялізны дужы змей, які раней тут ніколі не быў.

За Чанг адразу разгадаў каварныя намеры незнаёмца: задушыць гаспадара нары. А зрабіць гэта было цяпер няцяжка. „Неабходна ратаваць хворага змея!" — вырашыў За Чанг.

Раздумваць не было калі — ён схапіў лук і пусціў стралу. Але здарылася непрадбачанае. Страла, якая павінна была дапамагчы слабой істоце, прынесла няшчасце — забіла змяю-жонку. А каварны незнаёмец знік.

Вельмі шкадаваў За Чанг, што так атрымалася. Але што зробіш? Змяю не ажывіш.

Час ішоў, а стары ўсё ніяк не мог забыцца пра гэты выпадак, і каб хоць крыху супакоіцца, ён расказаў пра ўсё сваёй жонцы. Не паспеў За Чанг скончыць расказ, як аднекуль зверху пачулася шыпенне. Стары пачаў спалохана азірацца і над галавой, на бэльцы, убачыў змея, што жыў у ягоным садку. Зачапіўшыся хвастом за бэльку, змей нахіліўся да старога, падаў яму вялікую жамчужыну і сказаў:

—Я думаў, што ты мой вораг, і хацеў адпомсціць за смерць маёй жонкі. Але цяпер разумею, што памыляўся. Ты мяне самога выратаваў ад смерці, і я хачу аддзякаваць. Вось жамчужына-слухаўка. Яна дапаможа табе разумець мову жывых істот.

За Чанг, ачуняўшы ад страху і здзіўнення, шчыра падзякаваў за падарунак і вырашыў

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Пятрусь Макаль

### ЗАХВАРЭЛА САСНА

Дзяцел — доктар лясны —
Прыляцеў да сасны.
Сеў паважна на сук
І застукаў:
— Тук-тук!..
Што з табою, сястра,
Дарагая сасна?

— Ой, баліць мне кара, —
Адказала сасна.
— Зараз я пагляджу.
Покуль бачу адно,
Што пад душам з дажджу
Не была ты даўно...
Мог тут нейкі мікроб
Звіць гняздо сапраўды.
Не баіцца хвароб
Той, хто чысты заўжды...

Дзяцел стукаў:
— Тук-тук!..
Гэты гул, гэты грук
Падхапіла ў бары
Рэха, як тэлеграф,
Каб пачулі сябры:
— Тук-тук-тук!
— Трах-та-рах!..
Рэха вестку нясе,
І здароўем сястры
Заклапочаны ўсе
У лясным гушчары.

Хельё Мянд

### ШТО МАЛОМУ ТРЭБА?

Што малому трэба?
Домік, сад за домам,
У вясёлках неба
З жаўруком нястомным,
Хвалі плёскат срэбны,
Луг з расой жамчужнай...
І сябры патрэбны,
Каб гуляць мог дружна.
А найболей — мама.
А найболей — тата.
Радасць — мець таксама
І сястру,
І брата.

Што малому трэба?
Сонейка над садам,
Малака і хлеба,
Ласкі ды спагады,
І каб сны ляцелі
Зорна да пасцелі.

Што малому трэба?
Каб ён рос,
Як трэба.
У гаі, у полі
Бегаў па прыволлі,
Мог з сябрамі ўсімі
Набірацца сілы.
Поле, сад і гай —
Іх зямля,
Іх край.

**З эстонскай пераклаў
Мікола Чарняўскі**



## Пішуць школьнікі

*Дарагая „Зорка“!*

*Пішуць да цябе вучні пятага класа Пачатковай школы ў Старым Корніне. Мы з зацікаўленнем чытаем „Зорку“ і штотыдзень вельмі цябе чакаем.*

*Напішам Табе, як мы праводзілі канікулы.*

*Першы тыдзень канікул мы правялі дома. Дапамагалі бацькам, чыталі кніжкі, гулялі.*

*10 ліпеня наш клас паехаў у Беларусь на экскурсію. Там мы пабывалі ў Гродне, Брэсце, Свіслачы, Ваўкавыску, Карнатах і Каменюках.*

*У мясцовасці Каменюкі мы наведалі музей і запаведнік звяроў.*

*Вельмі нам спадабаўся такі адпачынак. Мы пазналі новых сяброў. У Польшчу вярнуліся 20 ліпеня. Рэшту канікулаў правялі дома, дапамагаючы бацькам па гаспадарцы.*

*„Зорачка“, запрашаем цябе да нас у госці. Да хуткай сустрэчы.*

**Вучні пятага класа школы ў Старым Корніне.**



*Першакласнікі са Старога Корніна.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*





## Паглыбляй свае веды

### ШАХМАТЫ ДАЛЁКІХ ПРОДКАЎ

Падчас раскопак старажытнага гарадзішча Мінска археолагі выявілі майстэрню ювеліра, а пры яе даследаванні — чатыры самаробныя шахматныя фігуркі, выразаныя з драўніны. Падобныя шахматы знойдзены ў Брэсце і ў Мсціслаўі — гарадах, размешчаных за 646 кіламетраў адзін ад аднаго.

Сам факт знаходак шахматных мініяцюр для Беларусі даволі ардынарны. З таго перыяду ў 15 гарадах у межах сённяшняй Беларусі знойдзена хоць адна шахматная фігурка. Найбольш старажытныя фігуркі паходзяць з Ваўкавыска, Копысі і з гарадзішча на Менцы (12 кіламетраў ад Мінска) і датуюцца XI стагоддзем. Геаграфія знаходак сведчыць аб даволі раннім распаўсюджванні шахмат па ўсёй тэрыторыі краю.

Драўляныя шахматы, зробленыя рукою аматара — гэта доказ таго, што з шахматамі ўжо тысячу гадоў назад былі добра знаёмы не толькі прадстаўнікі гарадскіх вярхоў на чале з князем, але і ніжэйшыя слаі насельніцтва. Іх рабіў саматугам той, хто не меў магчымасці купіць іх у рамесніка-прафесіянала.

Беларуская калекцыя шахмат XI-XIII стагоддзяў складаецца больш як з трыццаці асобных фігурак, знойдзеных у час раскопак у Брэсце, Ваўкавыску, Віцебску, Гродне, Друцку, Копысі, Лукомлі, Мсціслаўі, Навагрудку, Полацку, Рагачове, Слоніме, Тураве і на Менцы. Пераважная большасць іх вытачана або выразана з костак і рагоў майстрамі-разбярамі. Ёсць і драўляныя фігуркі, і толькі адна, гродзенская ладдзя, зроблена з пакуль што нявызначанага мінералу светла-жоўтага колеру з зялёнымі пражылкамі.

Матэрыялы, якімі валодае сёння навука, у першую чаргу дзякуючы археолагам, паказваюць, што ўсходнія славяне вылучаліся высокай шахматнай культурай, а гэта магчыма было толькі пры дасягненні пэўнага ўзроўню развіцця духоўнай культуры ўсяго грамадства ў цэлым, на фоне якога фармуюцца, як вядома, духоўныя патрэбы кожнага чалавека ў асобнасці.

Доследы над шахматнай культурай у Еўропе дазволілі польскім вучоным Е. і Э. Гансоўскім прыйсці да высновы, што ў Польшчу шахматы трапілі „з суседняй Русі“.

**(Паводле Ст. Цярохіна).**

## Вясёлы куточак

— Тата, — гаворыць Пеця. — Настаўніца казала, каб ты мне больш не памагаў адрабляць урокі па беларускай мове.

— Чаму? — дзівіцца тата.

— Бо яна сказала, што ёй хопіць маіх памылак.

* ✲ *

— Калі найлепшы час абрываць вішні з дрэва?

— Калі наш сусед спіць.

* ✲ *

— Скажыце, ці не хацелі б вы, каб я вашу дзяўчынку павялічыў? — пытаецца фатограф у жанчыны.

— Не, не трэба, — адказвае тая. — Яна сама вырасце.

* ✲ *

— Прыдзіце паглядзець нашую малую, — запрашае сусед суседа, — ёй ужо два месяцы. Найлепш каля поўначы прыходзьце.

— Чаму каля поўначы?

— Бо тады яна найцішэйшая.

**(Працяг са стар. 9)**

# ЗА ЧАНГ

ніколі не разлучацца з цудадзейнай жамчужынай.

* ✲ *

За Чанг па-ранейшаму кожны дзень працаваў у сваім садку. Неяк туды прыляцелі вароны і паведамілі:

— Толькі што недалёка ад вёскі, на гары, тыгр задушыў дзікую казу. Можаш забраць сабе мяса. Але абавязкова пакінь нам вантробы.

Стары схадзіў на гару, сапраўды знайшоў там казу, адрэзаў сабе кавалак мяса і параіў суседзям таксама пайсці па мяса. Ён не забыўся папярэдзіць, каб не бралі вантробы. Але на гару пабегла амаль што ўся вёска, і ад казы нічога не засталося.

Вароны падумалі, што За Чанг наўмысна іх пакрыўдзіў, таму сабраліся вакол яго хаты і пачалі крычаць. Стары зразумеў, што суседзі не паслухаліся яго і зрабілі вінаватым перад птушкамі. Ён паспрабаваў растлумачыць варонам, чаму так атрымалася, але яны не слухалі і крычалі яшчэ больш. Тады За Чанг, каб напалохаць і разагнаць сварлівых птушак, стрэліў з лука. Вароны і гэта зразумелі па-свойму: Чалавек хацеў іх забіць. І гэта пасля ўсяго зробленага імі дабра!

Перахапіўшы ў паветры стралу, птушкі пачалі раздумваць, як пакараць За Чанга — і за падман, і за спробу іх забіць. Раптам нейкая варона заўважыла, што хвалі ракі выкінулі на бераг тапельца. І вароны вырашылі ўткнуць яму ў горла стралу з надпісам „За Чанг“.

Страшнейшай кары і не выдумаць...

Як толькі людзі заўважылі мерцвяка са стралой у горле, яны падумалі, што За Чанг — забойца. Стары не мог апраўдацца, бо на страле сапраўды было ягонае імя. „Злачынцу“ павялі ў сталіцу, каб яго сурова пакараў сам цар.

**Працяг будзе.**

**Уладзімір Мацвеенка**

# ЗАГАДКІ

### ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

**Жыў у цёмным лесе Зайка,**
**Яго звалі Загадайка.**
**Ён звяроў збіраў ля хаткі**
**І загадваў ім загадкі.**
**Іх любілі ліс і крот,**
**Лось, вавёрка і янот.**

**Што загадваў Зай звярам,**
**Загадаю, дзеткі, вам...**

**1**

Што за такія чатыры пары,
Што за такія чатыры сястры:
Першая — назбірае вады,
Другая — арэ і сее,
Трэцяя-росціць руплівa плады,
Чацвёртая — есці ўмее.

**2**

Белым пухам зямлю замяло
І палеткі, і сяло
Мост праз рэчку хутка ляжа.
А што гэта, хто адкажа?

**3**

Што за беленькая мушка
Апусцілася на вушка,
Ледзь чутно пaказытала,
Штосьці вушку пашаптала,
І праз міг яе не стала?

**4**

Дзве драўляныя пантоплі
Так падобны, як дзве кроплі,
Дзве пятлі, не для красы,
Два задраных насы.
З горачкі бягуць па следзе,
А на іх дзяўчынка едзе.

**Працяг будзе**

*Адказы на загадкі знойдзеш у наступным нумары.*

## Вершы Віктара Шведа

### НЕ ТРЭБА МНЕ МЫЦЦА

Сын матулі рана
Расказаў свой сон:
Дзесьці нечакана
У ваду ўпаў ён.

— У чыстай вадзіцы
Купаўся, павер!
Дык, можа, не мыцца
Магу я цяпер?

### МІКАЛАЙ І ПАПУГАЙ

Спыталі Мікалая:
— Чаму, скажы нам, браце,
Купіў ты папугая
І мучыш яго ў хаце?

— Купіў яго, прызнацца,
З вялікаю надзеяй:
Хачу пераканацца
Ці трыста год жыве ён?

### НЕ ЛЮБІЦЬ КАЛЫХАНКІ

Ніяк не засынае
У сваім ложку Янка.
Бабуленька старая
Спявае калыханкі.

— Калі спяваць ты хочаш —
Дык у другім пакоі.
Хачу заплюшчыць вочы,
Заснуць тут у спакоі.

### АДГАДАНКА



*Замест значкоў устаў адпаведныя лікі і зрабі матэматычныя дзеянні, каб усё было правільна.*



**Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.**

# Двухлітарная крыжаванка

**Упоперак:** 1) грязь, 3) прылада з зубамі, якая можа быць дзеясловам, 5) паслядоўна счэпленыя металічныя звенні, якімі можна прывязаць карову, 6) цягне за цыцкі, 8) сібірская рака, 10) мама і тата, 12) запірае дзверы, 14) у сярэдзіне тыдня, 15) майстар, які куе, 17) кавалак цэласці, 19) паўднёвае вечназялёнае дрэва, 21) сталярская прылада, 23) загана, недахоп, 24) ніжняя, патоўшчаная частка дрэва, якая прылягае да кораня, 25) часовае карыстанне за плату.

**Уніз:** 1) валасы пад губамі, 2) я ім, а яны мне, 3) крумкач, 4) напісаны гук, 7) раз'юшанасць, злоснасць, 9) круціцца на шыі, 10) мастацкі стыль XVI—XVIII стагоддзяў, 11) крухмальная страва, 12) яе трэба выканаць або адолець, 13) абразлівыя, грубыя словы, 16) від сухога пячэння, 18) тонкі прут з завостраным канцом, 19) раптоўны страх, перапалох, 20) узор, макет, тып, марка канструкцыі, 21) Урач-лекар або навуковец-вучоны, 22) завадатар банкету. **„ядань“**

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 40.**

**Упоперак:** плюс, стол, модніца, школа, акула, аглоблі, Парыж, Нарач, магазін, гамак, тыраж, насмарк, мяжа, азот.

**Уніз:** плюш, смала, санкі, лета, народ, Крапіва, агрызак, алфавіт, ляшчына, фатум, манна, нырка, гром, жарт.

Узнагароды выйгралі: Ёля Мацкевіч з Доўгага Броду і Юрка Грыгарук з Рыгораўцаў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | | 5 | | | | |
| 6 | 7 | | | 8 | 9 | |
| | | | | | | |
| 10 | | 11 | | 12 | | 13 |
| | | 14 | | | | |
| 15 | 16 | | | 17 | 18 | |
| | | | | | | |
| 19 | | 20 | | 21 | | 22 |
| | | 23 | | | | |
| 24 | | | | 25 | | |

# НІЎКА

— *Марыя Іванаўна, а мамантьі таксама ад Чарнобыля вымерлі?..*

Мал. А. Шавеля („Вожык“)

## ІНТЭРВ'Ю НА ПТУШЫНЫМ РЫНКУ

— Якая розніца, — спыталі Папугая, паміж птушыным базарам і Птушыным рынкам?

— Прынцыповая, — адказаў Папугай. — На Птушыным базары кожны ведае сабе цану, а на Птушыным рынку кожны ведае, колькі ён каштуе.

* ✲ *

— Колькі ў вас шчупальцаў? — спыталі Спрута.

— А хто яго ведае, — прамармытаў Спрут. — Лепш запытайце камісара Катані.

* ✲ *

— Чаму вы пакідаеце сваіх птушанят? — спыталі Зязюлю.

— Чаму, чаму! Таму, што іх многа, а я адна.

* ✲ *

— Як вы думаеце, адкуль узялася прымаўка „І ваўкі сытыя і авечкі цэлыя“? — спыталі Ваўка.

— Ад бараноў! — адказаў Воўк.

* ✲ *

— Ваш дэвіз? — спыталі Шакала.

— Ад кожнага па меры магчымасцей, кожнаму па мордзе! — адказаў звер.

* ✲ *

— Вы не маглі б да Зайца адносіцца па-чалавечы? — спыталі Ваўка.

— Не, — адказаў драпежнік.

— Чаму?

— А таму, — прахрыпеў Воўк, — што я люблю яго пазверску.

**Вадзім Тонкаў**

(„Літаратурная газета“)

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Добраахвотныя ахвяраванні працаўнікоў Чыгуначнага дэпо ў Чаромсе:**

**3431. Сцяпан Маркевіч — 1000 зл.**
**3432. Яўген Еўдасюк — 2500 зл.**
**3433. Уладзіслаў Ефімюк — 2000 зл.**
**3434. Дзмітры Качко — 1000 зл.**
**3435. Васіль Ліпінскі — 2000 зл.**
**3436. Юры Дарашчук — 2000 зл.**
**3437. Віктар Верамчук — 2000 зл.**
**3438. Мікалай Рэй — 2000 зл.**

## ПАДПІШЫЦЕСЯ НА „НІВУ“!

Паведамляем нашых чытачоў, што ў **1991 г. экземпляр „Нівы“ будзе каштаваць 800 зл.** У сувязі з гэтым зменяцца такса-ма кошты падпіскі.

**У аддзелах „Рух“** падпіска на І квартал каштуе 10400 зл., а з высылкай за граніцу звычайнай поштай — на 100 прац. даражэй (20.800 зл.). Прымаюць яны падпіску на І квартал 1991 г. да 20 лістапада г.г. Грошы на высылку „Нівы“ за граніцу трэба пералічваць на наступны рахунак.

**PBK XIII Oddział Warszawa**
**Nr 370044-1195-139-11**
**Centrala Kolportażu Prasy**
**00-958 W-wa, skr. poczt. 12**

**Паштовыя аддзяленні** прымаюць падпіску на І квартал таксама да 20 лістапада г.г. Кошт квартальнай падпіскі — 16900 зл. (10400 зл. + 6500 зл. за пастаўку).

**На „Ніву“ можна таксама падпісацца і ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве**, якое з'яўляецца выдаўцом нашага тыднёвіка. Грошы на гэтую форму падпіскі трэба пералічваць на рахунак:

**NBP O/O Białystok**
**Nr 5021-3203-132**
**ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11**

Па пераводзе просім зазначыць, на які перыяд заключаецца падпіска.

Кошт падпіскі ў заходнія краіны:

— звычайнай поштай — 5 амерыканскіх долараў на квартал (20 ам. дол. на год);

— авіяпоштай: у ЗША і Канаду — 10 ам. дол. на квартал (40 ам. дол. на год); у Аўстралію — 14 ам. дол. на квартал (56 ам. дол. на год).

Кошт падпіскі ў Польшчы — 19500 зл. на квартал (78.000 зл. на год). Змена цаны падпіскі ў БГКТ можа быць выклікана зменай коштаў паштовай перасылкі.

**РЭДАКЦЫЯ**


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“
ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z doławą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania

2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.

3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.

4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1991 r. upływa 20 listopada 1990 r. włącznie.

5. Cena prenumeraty na I kwartał 1991 r. wynosi 10.400 zł + 6.500 zł za doręczenie. W 1991 r. cena 1 egz. wynosić będzie 800 zł.

6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej: — grudzień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 1470/90.